№ 223 (1786)
Серада, 26 лістапада 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +5...+7, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +10...+12, без ападкаў, уначы — +9...+11, дождж; у Гродне ўдзень — +8...+10, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +6...+8, без ападкаў, уначы — +5...+7, дождж; у Гомелі ўдзень — +7...+9, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — +5...+7, без ападкаў, уначы — +6...+8, дождж.

*www.meteo.by*



ЗАКУЛІССЕ

## Як генерал Фралоў прабівае праект Закона...

Як ужо паведамлялася, за тое, каб былі прыняты Закон "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь", ужо каторы месяц б'ецца як рыба аб лёд дэпутат Палаты прадстаўнікоў генерал В.Фралоў. Праект такога архіважнага дакумента ён прадставіў яшчэ некалькі тыдняў таму. Але яго адфутбалілі ў Камісію па заканадаўстве і мясцовым самакіраванні. Першае пасяджэнне яе адбылося. З пяці членаў Камісіі двое падтрымалі праект Валерыя Фралова (У.Навасяд і У.Лукашэвіч), двое ўстрымаліся (М.Сасонка і І.Семяненя), а адзін, М.Арда, наогул не прыняў удзелу ў абмеркаванні.

Пайшоў дэпутат-генерал да кіраўніцтва Палаты раіцца, як быць далей. А яму ў адказ: для дапрацоўкі праекта трэба стварыць рабочую групу. "Калі ласка, давайце ствараць". Даручылі заняцца гэтым намесніку старшыні палаты Уладзіміру Канаплёву. Апошні абяцаў склікаць дэпутатаў у панядзелак — не склікаў. Абяцаў зрабіць гэта ў сераду — не зрабіў.

І вось толькі ўчора на пасяджэнні Савета Палаты стварылі для гэтага спецыяльную камісію.

Дзіўны генерал — ён думаў, што праект пройдзе ў Палаце пад воплескі дэпутатаў. Хто гэта будзе разглядаць такі рэвалюцыйны дакумент без узгаднення з "Чырвоным домам"?! А там, мабыць, і чуць не хочуць пра нейкія змяненні ў Выбарчы кодэкс. Бачыце, давай ім празрыстае галасаванне, пашырэнне правоў назіральнікаў, дэмакратычнае падвядзенне вынікаў!..

А час ідзе. Глядзіш — і надыдзе выбарчая кампанія. Можна з упэўненасцю сказаць, што без унясення змяненняў у Выбарчы кодэкс аб дэмакратычнасці выбараў можна толькі марыць.

**Мар'ян КАРЖАНЕЎСКІ.**

ПУЛЬС

## Для вывучэння сітуацыі са свабодай слова Мінск наведае член ПАСЕ Хрыстос Пургурыдэс

Ён будзе ў Беларусі з 30 лістапада па 3 снежня. Еўрапарламентарый, паведамляе прэс-служба ПАСЕ, займаецца складаннем справаздачы аб праследзе недзяржаўных СМІ ў Беларусі для Камітэта ПАСЕ па палітычных пытаннях.

Падчас візіту запланаваны сустрэчы Х.Пургурыдэса з членамі беларускага парламента і ўрада, прадстаўнікамі СМІ.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Будзе спрошчаны пропуск

З 25 лістапада жыхары Гомеля і Чарнігава змогуць перасякаць беларуска-ўкраінскую мяжу праз пункт спрошчанага пропуску. Да сённяшняга дня рабіць гэта ім даводзілася толькі ў міжнародных і міждзяржаўных пунктах пропуску на мяжы паміж дзвюма краінамі.

Новаўвядзенне стала магчымым дзякуючы падпісанню 25 лістапада ў дзяржаўнай загараднай рэзідэнцыі "Заслаўе-3" пад Мінскам беларуска-ўкраінскага міжурадавага пратакола аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у пагадненне паміж урадамі дзвюх краін аб парадку перасячэння беларуска-ўкраінскай мяжы грамадзянамі, якія пражываюць у памежных раёнах, ад 12 снежня 1998 года.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## У Маладзечне будзе адкрыты помнік Міколу Ермаловічу

29 лістапада ў цэнтры Маладзечна адбудзецца адкрыццё помніка вядомаму айчыннаму гісторыку Міколу Ермаловічу.

Мемарыял складаецца з валуна чырвонага фінскага граніту вышынёй 2,5 метра, на якім замацаваны бронзавы барэльеф з выявай навукоўца (скульптар Уладзімір Мелехаў) і дошка з тэкстам: "Міколу Ермаловічу, гісторыку, ганароваму грамадзяніну горада Маладзечна, ганароваму сябру клуба "Спадчына" ад удзячных землякоў і сяброў клуба". Помнік выраблены на добраахвотныя ахвяраванні грамадзян Беларусі.

Кіраўнік праекта выказаў прызнанне ўладам горада, у якім доўгі час жыў і працаваў навуковец, за падтрымку ў справе ўвекавечання яго памяці.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Пры атрыманні хабару затрыманы дырэктар адной з гаспадарак Брэсцкага раёна

Пры атрыманні хабару ў памеры 290 долараў затрыманы дырэктар саўгаса "Брэсцкі", дэпутат Брэсцкага раённага савета дэпутатаў 46-гадовы Мікалай Гутэль.

Чыноўнік быў затрыманы ў сваім рабочым кабінеце. Хабар ён атрымаў ад дырэктара камерцыйнай фірмы з Масквы ў якасці платы за заключэнне дагавора аб сумеснай дзейнасці.

Пры затрыманні М.Гутэль аказаў супраціўленне супрацоўнікам упраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС, у выніку чаго прычыніў аднаму з міліцыянераў цялесныя пашкоджанні.

Пракуратура Брэсцкай вобласці распачала ў адносінах да чыноўніка крымінальную справу па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі — 430 (хабар) і 363 (супраціўленне работніку міліцыі).

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ПАЗІЦЫЯ

## Ці возьмуць удзел Ваша партыя, Ваш рух у парламенцкіх выбарах, калі

**а) у Выбарчы кодэкс не будуць унесены змяненні, скіраваныя на дэмакратычнае фарміраванне тэрытарыяльных камісій, пашырэнне правоў назіральнікаў, празрыстасць галасавання і падвядзенне яго вынікаў?**

**б)у бліжэйшы час выканаўчай уладай не будзе забяспечаны доступ апазіцыйных партый, грамадскіх аб'яднанняў, рухаў да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі?**

*З такім пытаннем "Народная воля" звярнулася да шэрагу палітычных і грамадскіх дзеячаў. Вось іх адказы.*

***Зянон ПАЗЬНЯК,*** *старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.*



— Калі няма дэмакратычных выбараў, то ўдзел у гэтых выбарах — гэта падтрымка рэжыму.

Калі закрыты ўсе адміністрацыйныя каналы, створана машына фальсіфікацыі, няма сэнсу ўдзельнічаць у выбарах. Гэта азначае толькі легітымізацыю выбараў.

Па-другое, выбары немагчыма правесці ў пустэчы, людзі павінны ведаць, каго яны выбіраюць, павінна праводзіцца агітацыя. І найлепей яе правесці праз сродкі масавай інфармацыі, аднак зразумела, што гэта немагчыма. Таму павінна быць другая тактыка. Калі цябе не пускаюць у дом, ты будзеш лезці ў вакно...

У гэтай сітуацыі, якую прапанаваў Лукашэнка, грамадства не мае магчымасці ўдзельнічаць у выбарах, гэта бессэнсоўна. Калі слабога зайца загнаць у кут, ён кінецца. Лукашэнка загнаў усіх у кут... Няма сэнсу ўдзельнічаць у гэтых выбарах.

***Станіслаў ШУШКЕВІЧ,*** *старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады*



— На гэтае пытанне немагчыма адказаць **"так"** альбо **"не"**. Бо гэта правакацыйнае пытанне, і тут можа быць толькі разгорнуты адказ.

Рашэнне аб удзеле альбо няўдзеле ў выбарах прымаецца Цэнтральным органам нашай партыі, і 14 верасня было прынята рашэнне, што Цэнтральная рада падтрымлівае дзейнасць выканкама па ўдзеле ў выбарах. Аднак калі нашы ўлады не зменяць стаўлення і будуць праводзіць антыдэмакратычную палітыку, накіраваную на татальную фальсіфікацыю выбараў, то Цэнтральная рада можа змяніць сваё рашэнне аж да байкоту.

У грамадстве зараз расце працэс супраць дыктатуры, падтрымка Лукашэнкі вельмі і вельмі малая і змяншаецца. Нават вераснёўскія апытанні паказваюць, што ў яго падтрымка значна меншая, чым у аб'яднанай апазіцыі. І далей гэты працэс будзе расці. І калі грамадства ў сваёй большасці будзе рашуча пратэставаць супраць гэтага і галасаваць супраць дыктатуры, тады, незалежна ад умоў, выбары будуць сфальсіфікаваны і як вынік — перамога дзеючай улады.

Я прывяду такі прыклад. За што знялі Казуліна? За тое, што студэнты галасавалі супраць Лукашэнкі, і ўтойваць гэта было немагчыма, бо значная большасць была супраць. І калі 90% грамадства будзе супраць, то ў стане страху будуць тыя, хто будзе фальсіфікаваць вынікі выбараў, бо для іх гэта — пагібель. Іх чакае не тое, што зараз адбылося ў Грузіі, а значна горшы варыянт.

***Андрэй САННІКАЎ,*** *каардынатар "Хартыі'97", адзін з ініцыятараў стварэння Еўрапейскай кааліцыі "Свабодная Беларусь":*



— Відавочна, што не трэба чакаць, што ўлады ўнясуць пэўныя змены ў Выбарчы кодэкс. Наадварот, зараз уносяцца іншыя змены, якія накіраваны на больш жорсткі кантроль улад за дзейнасцю апазіцыі, дзейнасцю дэмакратычных сіл.

Тым не менш удзельнічаць у выбарах трэба. І трэба рыхтавацца да кампаніі выбараў. Праўда, пры гэтым улічваць усе захады улады, якія яна робіць, каб не дапусціць празрыстых, дэмакратычных выбараў, і трэба ўлічваць нашы памылкі, якія былі зроблены падчас прэзідэнцкіх выбараў.

Што тычыцца СМІ, то сёння ў нас абмежаваны доступ не толькі да дзяржаўных, але нават і да незалежных СМІ, таму што ў сучаснай Беларусі знішчаюцца газеты, ідзе ціск на асобных журналістаў. Напрыклад, "Народная воля" таксама апынулася ў складанай сітуацыі, калі ідуць судовыя справы...

***Мікалай СТАТКЕВІЧ,*** *старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада):*



— Наша партыя возьме ўдзел у выбарах. Трэба ісці да людзей, тады і людзі прыйдуць да вас.

Мабыць, галоўнае ў гэтых выбарах тое, як у вачах уласнага народа будуць выглядаць беларускія дэмакратычныя сілы. Калі мы здолеем папулярызаваць у вачах народа ідэю, якая адпавядае яго інтарэсам і нашым ідэалам адначасова, і прывязаць сябе да гэтай ідэі, то тады мы зможам з упэўненасцю рыхтавацца да прэзідэнцкіх выбараў. Калі не здолеем — то ў чарговы раз будзем выглядаць няўдачнікамі.

***Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА,*** *старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:*



— Мы будзем прымаць удзел не ў выбарах (ужо абсалютна зразумела, што выбараў, як гэта разумеюць людзі ў цывілізаваных краінах, у Беларусі не будзе), мы рыхтуемся да жорсткай палітычнай кампаніі без усялякіх правіл.

Чаму мы прынялі такое рашэнне? Для нас сёння самае галоўнае — гэта праца з паловай насельніцтва краіны, якое знаходзіцца паміж апазіцыяй і палітычным рэжымам. У гэтых людзей не хапае інфармацыі. Мы разглядаем гэтую кампанію як магчымасць пайсці ад дзвярэй да дзвярэй, паразмаўляць з людзьмі, данесці да людзей нашу пазіцыю і нашу праграму рэформ Беларусі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## Еўрапейская кааліцыя «Свабодная Беларусь» вітае перамогу грузінскіх дэмакратаў

"Фальсіфікацыя парламенцкіх выбараў у Грузіі, што адбыліся 2 лістапада 2003 года, не прынесла плануемых уладамі вынікаў. Дэмакратычная апазіцыя змагла аб'яднацца і аднавіла права народа самому выбіраць сваіх прадстаўнікоў ва ўладу, — гаворыцца ў заяве Еўрапейскай кааліцыі. — Мы выказваем салідарнасць з дэмакратычнымі сіламі Грузіі, жадаем ім мужнасці і трываласці ў адстойванні сваіх правоў.

Грузінская "рэвалюцыя ружаў" ізноў пацвердзіла непазбежнасць перамогі дэмакратычных сіл у еўрапейскіх дзяржавах. Ваша рашучасць і прыхільнасць да прынцыпаў дэмакратыі з'яўляецца прыкладам для дэмакратычных сіл Беларусі".

Кіраўнікі Еўрапейскай кааліцыі павіншавалі лідэраў грузінскай апазіцыі Ніно Бурджанадзе, Міхаіла Саакашвілі і Зураба Жванія і ўвесь грузінскі народ "з перамогай дэмакратыі".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

ЭКСПЕРТЫЗА

*Александр КЛАСКОВСКИЙ*

## Грузинскую «революцию роз» можно экспортировать только на Комаровку?

Итак, в Тбилиси стал явью сценарий, столь желанный, сколь, пожалуй, и несбыточный для белорусской оппозиции. Толпы возмущенного народа под водительством противников президента заставили последнего — то бишь "седого лиса" Шеварднадзе — уйти в отставку. Не удивительно, что официальные минские СМИ поспешили представить победителей в самом неприглядном свете (хотя прежде костили за ту же проамериканскую позицию "седого лиса"). Белорусские оппозиционеры, и это тоже понятно, горячо приветствовали триумф братьев по духу.

Представляется, что на обоих полюсах доминируют крайние и поверхностные оценки. Уместны ли здесь вообще параллели с белорусской ситуацией? И почему, в частности, подобный сценарий — назовите его "бархатной революцией", югославским вариантом или, как поэтичные грузины, "революцией роз" — нереален, по дружному мнению экспертов, в нашей стране? И в свою очередь тот ли это повод, чтобы гордиться зрелостью нашего общества и политикой нынешнего руководства Беларуси?

**По мнению Валерия СУРЯЕВА,** начальника центра исследований геополитики Института социально-политических исследований при Администрации президента Беларуси, любое сравнение хромает. Шеварднадзе, например, элементарно не смог обеспечить общественную стабильность. Страна продолжала трещать по швам, как лоскутное одеяло, а уровень жизни большинства населения сползал в нищету. В Беларуси, при всех издержках и ошибках, удалось создать достаточно устойчивую, четкую систему управления, отметил Валерий Суряев в интервью "Белорусским новостям". К тому же, по его мнению, сказывается знаменитая толерантность наших соотечественников, **"если хотите — даже некий пиетет перед официальной властью".**

Да, прямые параллели между Беларусью и Грузией вряд ли уместны, соглашается эксперт аналитического центра "Стратегия" **Валерий КАРБАЛЕВИЧ. "Тем не менее,** — заметил он в интервью "Белорусским новостям", **— все "бархатные революции" проходят по подобным законам. И главный фактор — это народ на улицах. С этим фактором вынуждены считаться и большие державы".** Как пример политолог приводит эволюцию американской позиции по отношению к событиям Грузии, особенно если сравнивать их с недавними событиями в Азербайджане. Если в Баку поддержку Штатов снискал-таки Алиев-младший, прямой наследник прежнего правителя, то в Тбилиси Вашингтон поддержал противников старого лидера (хотя и Шеварднадзе был четко ориентирован на Америку). Когда народ решает вопрос о власти самим размахом выступлений, вершит бархатную революцию де-факто, иностранная дипломатия вынуждена идти в ее русле.

Кстати, подобное произошло и с позицией Москвы, обращает внимание Валерий Карбалевич. Хотя поначалу российское руководство стремилось поддержать Шеварднадзе, и в Тбилиси даже вылетел министр иностранных дел Иванов, в итоге последний, выйдя на митинг, фактически благословил оппонентов "седого лиса".

Почему же белорусская оппозиция не может реализовать сценарий, который принято называть югославским и который теперь сработал в Грузии? Собеседник *"Белорусских новостей"* выделяет несколько причин. Во-первых, это фактор единства оппонентов официальной власти (в белорусской ситуации речь скорее можно вести о факторе вечной разрозненности). Далее: все бархатные революции проходили по схеме "выборы — вопрос о фальсификациях — народ на улицах". В Беларуси же, считает эксперт, имеет место какой-то странный "сдвиг по фазе" между электоральными кампаниями и пиками оппозиционной активности. Была, например, горячая весна 1996 года, а вот осенью того же года, когда разыгралась драма с печально известным референдумом, у оппонентов Лукашенко из Верховного Совета не было должной поддержки со стороны политически активной публики. (В скобках следует заметить, что наверняка играет роль и степень решительности, харизматичности лидеров. Те, кто все же выходил в ноябре 1996 года поддержать Верховный Совет, были разочарованы непоследовательностью, робостью его руководства в критическую минуту.)

Главное же, по мнению собеседника *"Белорусских новостей"*, в том, что у массы белорусов ни в 1996 году, ни в сентябре 2001-го, ни после недавних местных выборов не было чувства, что их обманули. Грузинский электорат довели до кипения факты фальсификации итогов голосования. Но о подтасовках (даже гипотетически высчитав с помощью социологии долю приписки в "элегантной победе" — около 20 процентов) твердила и белорусская оппозиция. Однако то был глас вопиющего в пустыне. Так что для оппозиции, резюмирует независимый политолог, урок в том, что для умножения рядов своих сторонников надо кропотливой работой в массах поднимать уровень их гражданской зрелости, воспитывать у народа готовность отстоять свой выбор.

Еще один авторитетный белорусский эксперт — **Андрей ФЕДОРОВ** из Международного института политических исследований — отмечает, что события в Грузии (как и ранее в Азербайджане) стали своеобразным подарком белорусскому руководству и официальной пропаганде. Если сравнивать с грузинскими реалиями (30 долларов средней зарплаты и 7 долларов пенсии), то у нас просто всеобщее благоденствие и общественная идиллия, хотя, конечно, нельзя забывать о ценах — они разные.. **"На фоне взрывоопасного Кавказа нашу страну можно позиционировать как оазис стабильности, а на фоне той системы, что создал, например, Туркменбаши, в Беларуси просто-таки разгул демократии и свободы,** — улыбается собеседник "Белорусских новостей". — **Вот только те ли ориентиры? У нас принято преподносить достижения нынешней власти то по отношению к послевоенной разрухе, то по контрасту с самыми кризисными регионами бывшего СССР. Хотя стране в центре Европы больше пристало бы ориентироваться на те посткоммунистические государства, что уверенно идут по пути европейской интеграции. Но сравнение с прибалтами, поляками, чехами — явно не в нашу пользу. И потом, официальные СМИ как-то оставляют без внимания то, что стало толчком к массовым протестам в Грузии, — фальсификации на выборах. Тоже, видимо, чересчур скользкая тема...".**

*("Белорусские новости".)*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Апошняе слова Міхаіла Лявонава

*Учора ў Вярхоўным судзе быламу гендырэктару Мінскага трактарнага завода* **Міхаілу Лявонаву** *прадаставілі апошняе слова.*

Лявонаў сказаў, што прад'яўленыя яму абвінавачанні ён лічыць *"незаконнымі, сфальсіфікаванымі ад пачатку да канца".*

*"Усе гэтыя злачынствы прыдумала следства,* — заявіў Лявонаў. — *Следства заднім чыслом спрабавала карэкціраваць і ідэалізаваць эканоміку краіны... Дзе ж гэтыя разумнікі былі раней, калі эканоміка Беларусі задыхалася ад інфляцыі?..*

*Абвінавачанне імкнулася любым коштам зрабіць з мяне ворага народа... Была пастаўлена задача абавязкова абвінаваціць мяне, таму следства так лёгка пэцкае брудам у тым ліку і імя МТЗ".*

Міхаіл Лявонаў доўга і падрабязна распавядаў пра тое, у якім стане ён прыняў завод і якіх поспехаў удалося дасягнуць *"толькі дзякуючы падтрымцы прэзідэнта і зладжанай працы калектыва"*, колькі каштаваў беларускі трактар, каму і за які кошт прадавалася прадукцыя МТЗ і г.д.

Некаторыя рэчы, аб якіх казаў былы гендырэктар МТЗ у сваім апошнім слове, ужо гучалі ў судзе. Напрыклад, Міхаіл Васільевіч ізноў узгадаў пра кіраўніка следчай групы **Івана Бранчаля**, які *"здзекаваўся з маёй сям'і".*

*"Мае скаргі ў пракуратуру заставаліся без увагі,* — гаворыць Лявонаў. — *За час знаходжання ў следчым ізалятары я напісаў больш за 50 скаргаў. Ніводная з іх не была задаволена".*



*Зараз Лявонаў выглядае інакш. За доўгі судовы перыяд ён адпусціў бараду.*

Міхаіл Лявонаў па-ранейшаму лічыць сябе невінаватым. І, на яго думку, адвакатам удалося гэта даказаць.

*"Але падобнае завяршэнне справы кагосьці не задавальняла. Таму мне прад'явілі новае абвінавачанне. На падставе якіх законаў працягваюцца "раскопкі" пасля таго, як справа была перададзена ў суд? Судзіць і весці крымінальнае расследаванне адначасова... Спадзяюся, Высокі Суд дасць адзнаку гэтым дзеянням".*

Нагадаем, што Лявонаву пагражае 12 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці і забарона займаць кіраўнічыя пасады тэрмінам на пяць год.

Да маёмасці Лявонава, якая падлягае канфіскацыі (а гэта грашовыя сродкі ў беларускіх банках прыкладна на 10 тысяч долараў, электратэхніка, паляўнічая стрэльба і аўтамабіль "Крайслер"), прадстаўнікі пракуратуры просяць далучыць таксама грошы на замежных рахунках, якія Лявонаў нібыта адкрыў для жонкі Алены, дачок Вольгі і Алесі. Паводле звестак пракуратуры, якія нібыта пацверджаныя "Камерцбанкам" з Франкфурта, на гэтых рахунках ляжыць па 209 тысяч еўра. Дзе астатнія каля 20 мільёнаў долараў, якія, паводле сцвярджэння пракуратуры, праз махінацыі на МТЗ накраў Міхаіл Лявонаў, следства дагэтуль як быццам не высветліла.

Спіс злачынстваў, у якіх вінаваты Міхаіл Лявонаў, паводле меркавання пракуратуры, дапаўняюць таксама атрыманне хабару, нявыплата падаткаў, незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць, легалізацыя злачынных прыбыткаў.

***"Мы па-ранейшаму лічым, што віна Міхаіла Лявонава не даказаная, і мы спрабуем пераканаць у гэтым суд,*** — заявіў Радыё "Свабода" адкават Лявонава **Аляксандр Самусеў. —** ***На працягу паўгода мы чулі на працэсе, у чым ён абвінавачваецца, але дагэтуль не пачулі доказаў віны. 150 тамоў справы — гэта 150 тамоў, больш за сто апытаных сведкаў — гэта толькі апытаныя сведкі, але незразумела, дзе доказы таго, што Лявонаў нібыта скраў гэтыя мільёны долараў. Зноў паўтараю, што зыходзячы з таго, што мы пачулі на судзе, нашае меркаванне аб невінаватасці Лявонава не стала іншым".***

У той жа час следчыя і пракурор стаяць на сваім — Лявонаў павінен панесці суровае пакаранне. Што скажа суд — пачакаем, вынікі будуць абвешчаны ў бліжэйшы час.

**Марына КОКТЫШ.**
**Фота ByMedia.net**

**З «Народнай воляй» — у 2004 год!**

*Жыццё нікому не спыніць! І ў 2004 годзе яго адлюстраванне будзе найбольш поўным на старонках "Народнай волі".*

*Пакуль не позна — падпішыцеся! Будзем разам!*

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з вамі!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ______

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | |

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

# Какому бизнесу в Беларуси хорошо?

*На днях владелец компании-производителя белья **"Serge"** **Сергей Атрощенко**, человек, не имеющий высшего образования, в интервью "Интерфаксу" заявил, что **"в Беларуси отличные условия для бизнеса"**.*

*"Народная воля" решила выяснить, кто еще из бизнесменов и экономистов придерживается подобного мнения.*

***Анатолий ТРУХАНОВИЧ,** директор фирмы "ADL":*

— Я категорически не согласен с мнением Атрощенко.

***Андрей КЛИМОВ,** депутат Верховного Совета Беларуси 13-го Созыва, экс-бизнесмен:*

— Для Сергея Атрощенко, который работает на президента и, как известно, имеет властную "крышу", конечно, в Беларуси созданы прекрасные условия для развития его бизнеса. На мой взгляд, Атрощенко не заинтересован, чтобы Беларусь поднялась выше шкловского уровня развития бизнеса.

Мне кажется, все знают, что самые успешные белорусские бизнесмены — это чиновники. Они развивают свой бизнес. А остальные мучаются...

***Александр ПОТУПА,** президент Союза предпринимателей:*

— Высказывание Атрощенко — за пределами комментариев в рамках здравого смысла...

Если в Беларуси действительно такие замечательные условия для развития бизнеса, тогда почему у нас около 46 процентов нерентабельных предприятий? Я не понимаю таких патриотических повизгиваний, прошу прощения...

А теперь немного о состоянии бизнеса. Не надо забывать, что в Беларуси самый низкий в Европе (а может, и в мире) уровень малых предприятий на тысячу населения — около 2,5. В России — 6,5 (в Москве — 21), в Украине — 5,5, в среднем по Европе — 45, в США — 78. В последние годы мы потеряли десятки тысяч позиций в индивидуальном бизнесе, который примерно до 2001 года интенсивно шел в гору. По инвестиционному рейтингу Беларусь на последних местах, а это означает, что мы не можем выпускать серьезную, конкурентоспособную продукцию, а значит, развитие страны тормозится.

Называть это все благополучным развитием экономики, местом, где блаженствуют предприниматели, очень трудно...

Могу только порадоваться, что еще встречаются такие "оптимисты" в нашей жизни. Буду рад, если этот оптимизм не закончится трагично.

***Анатолий ШУМЧЕНКО,** председатель Республиканского общественного объединения "Перспектива", предприниматель:*

— Условия развития бизнеса в нашей стране сегодня идеальны для тех "бизнесменов", которые как лакеи обслуживают нынешний режим. На самом же деле условий для бизнеса в Беларуси не существует. Как и бизнеса в полном понимании этого слова. Бизнес может развиваться в условиях конкуренции, при нормальной законодательной базе. В нашем случае этого нет. Значит, нет и условий для развития бизнеса.

***Леонид ЗАИКО,** экономист:*

— Я этого бизнесмена лично не знаю, впервые увидел его по телевидению, и, скажу откровенно, он произвел на меня странное впечатление... Он вообще далек от объективной оценки экономической ситуации. Многим известно, как он работает... Такой вид бизнеса во всех странах мира называется *"бизнес под прикрытием"*. Может, бизнес под прикрытием действительно имеет возможность у нас развиваться. Но это мутантная и крайне неэффективная форма развития бизнеса как такового. Это так называемый неправильный бизнес. Ради этого нет смысла создавать рыночную экономику.

**Марина КОКТЫШ.**

**ПУЛЬС**

## Мінскія аўтобусы і тралейбусы едуць у Кіеў

*На пачатку лістапада Мінскі аўтазавод выйграў тэндэр на пастаўку ў Кіеў аўтобусаў і тралейбусаў, і цяпер прадстаўнікі ўкраінскага боку наважаны ўзгадніць з мінчанамі тэрміны і аб'ёмы паставак.*

Размова ідзе прыкладна аб 100 адзінках гарадскога пасажырскага транспарту, якія павінны быць пастаўлены ў канцы 2003 года — першым квартале 2004 года.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Супраць насілля над жанчынамі

*Насілле і бесперспектыўнасць — асноўныя прычыны рабства для многіх беларускіх дзяўчат і маладых жанчын. Пра гэта заявіла старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва" Ірына Грушавая на пасяджэнні "круглага стала" ў Мінску.*

Паводле яе слоў, крызіс у беларускім грамадстве пагаршае становішча жанчын. "Насілле стала звычайнай з'явай, аб чым сведчаць звесткі сацыялагічных даследаванняў, — сказала яна. — Так, 92,3 працэнта апытаных жанчын пацвердзілі, што ім даводзілася назіраць і быць удзельнікамі сцэн насілля. Трэць жанчын станавіліся аб'ектамі фізічнага насілля ў сям'і, а тры чвэрці — зведваюць розныя віды псіхалагічнага насілля, уключаючы папрокі, абразы і лаянку".

Старшыня беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны" Таццяна Ваніна зазначыла, што асноўнымі пастаўшчыкамі на рынак гандлю жанчынамі з'яўляюцца краіны з нізкім узроўнем эканамічнага развіцця, да якіх адносіцца і Беларусь. "Вось чаму для нашай краіны ліквідацыя гэтай праблемы шмат у чым звязана з эканамічным уздымам", — сказала яна.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Прэміі — рупліўцам роднай літаратуры

*Днямі ў Віцебску адбылося чарговае пасяджэнне камітэта па прысуджэнні прэмій імя У.Караткевіча — выбітнага беларускага паэта і празаіка.*

Прэмія ў памяць аб славутым земляку была заснавана Віцебскім аблвыканкамам у 1999 годзе і звычайна прысуджаецца літаратарам Віцебшчыны, што так або інакш захоўваюць традыцыі Ул.Караткевіча, а таксама асобам, якія маюць заслугі ў прапагандзе жыцця і творчасці славутага земляка.

На гэты раз камітэт адзначыў прэміямі двух чалавек. У намінацыі "За прапаганду жыцця і творчасці Ул.Караткевіча" прэмія прысуджана віцебскаму паэту і навукоўцу Анатолю Канапельку (пасмяротна), а ў намінацыі "літаратура" лаўрэатам стаў малады празаік Сяргей Рублеўскі за кнігу эсэ і апавяданняў "Азярод", напісаную на сакавітай беларускай мове. Лаўрэата ў намінацыі "літаратура" на Віцебшчыне ведаюць многія. Сяргей Рублеўскі паспяхова спалучае пісьменніцкую працу з абавязкамі галоўнага рэдактара папулярнай абласной газеты "Роднае слова".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**КАМАНДЗІРОЎКА**

# Правінцыя

*(Працяг. Пачатак у №222.)*

### Шэсць чалавек на шыі... немаўляці

"Запарожац" праходзіць нават там, дзе, здавалася б, джып завяз бы. Гайшын, Безуевічы, Цярахоўка...

Пакідаю машыну, заходжу ў хаты: людзі расказваюць гісторыі, якія аб'ядноўвае адно — безнадзейнасць і адчай.

50-гадовая сялянка, якая выглядае намнога старэйшай за свае гады, гаворыць вельмі ціха, амаль шэпча (яе імя, на жаль, цяжка пачуць на дыктафоннай стужцы). Раней яна працавала ў калгасе даяркай, потым — свінаркай. Захварэла, лячылася, урачы прапісалі "лёгкую працу". *"Але лёгкай працы на вёсцы няма,* — смуткуе сялянка. — *Таму і не працую зараз нідзе".*

У яе двухпакаёвай хаце жывуць шэсць чалавек — сама сялянка, яе маці, дзве дачкі, зяць і маленькая ўнучка. Зяця на момант майго візіту ў хаце не было: паехаў на будоўлю ў Маскву. — Ці многа прывозіць з "шабашкі"? — пытаю ў гаспадыні.

— *"Калі 100—200 долараў прывязе, гэта будзе вельмі добра,* — кажа жанчына. — *У апошні час даволі часта наогул не плацяць нашаму брату масквічы. Калі праца зроблена, прысылаюць "качкоў", а тыя выпіхваюць нашых, каб ехалі дамоў.*

Жыве сялянская сям'я з шасці чалавек выключна на фінансавую дапамогу, якую плаціць дзяржава маленькай унучцы. Каб дапамога была большай, дачка не распісвалася ў загсе са сваім мужам. У гэтым выпадку дапамога ідзе на маці-адзіночку і складае 180 тысяч рублёў, а гэта амаль у тры разы болей, чым замужняй жанчыне.

Такім чынам дзяржава ўскосна прымушае маладых людзей забыцца пра дарогу ў загс. Вяселляў у апошні час амаль не спраўляюць.

— А як далей жыць будзеце, калі ўнучцы тры гады споўніцца і дапамогу перастануць плаціць?

— Не ведаю, — хітра ўсміхаецца жанчына. — Мусіць, яшчэ адно дзіця завядзём.

— А як наогул з працай у калгасе?

— Працы ў калгасе няма ніякай. Харчуемся з уласнай гаспадаркі. Дровы сячом прама ў суседнім лесе, за гэта не штрафуюць. Але ўсё роўна трэба плаціць. Каб прывезці іх з лесу, патрэбна 15—20 тысяч рублёў. Раней у калгасе было лепш, плацілі добра. Апошнія гады — так-сяк, зараз зусім зарабіць немагчыма.

— А ты дзе вучышся? — задаю пытанне малодшай 17-гадовай дачцэ Валі.

— Нідзе. А навошта вучыцца? Некаторыя мае аднагодкі скончылі вучылішча ў Слаўгарадзе, а зараз сядзяць без працы.

— А чым, Валя, моладзь наогул займаецца ў вёсцы?

— Гуляе. Калі грошы ёсць, п'юць.

— А з якога ўзросту і што п'юць?

— З чатырнаццаці гадоў. П'юць віно, гарэлку, самагонку. А што яшчэ рабіць у "дзярэўні"?

### Баба Саша — за свабоду!

Былой настаўніцы Аляксандры Пятроўне — 77. Жыве разам з 73-гадовым дзедам Іванам у забытай Богам Цярахоўцы.

— Як здароўе, Пятроўна?

— Не вельмі добра. З-за радыяцыйнага забруджання ў нашай вёсцы ўжо амаль нічога не бачу. Але паміраць пакуль не збіраюся. Мусіць, Бог мяне і не прыме, таму што я Лукашэнку не люблю *(смяецца)*.

— А чаму не любіце, баба Саша?

— З-за тых людзей, якіх скралі. Я душой адчуваю, адкуль гора падкралася. Калі чытала пра зніклых у "Народнай волі", плакала: а калі б гэта маё дзіця было? Мне вельмі шкада Ганчара, Красоўскага, Завадскага, Захаранку.

— Калі Лукашэнка яшчэ адзін тэрмін у сваім крэсле адсядзіць, — уступае ў размову дзед Іван, — капут вёсцы будзе!

Баба Саша — асоба вельмі, як кажуць, прадзвінутая. Адразу відаць, былая настаўніца. Выкладала ў свой час у мясцовай школе геаграфію і нямецкую мову. Такіх, як баба Саша, сустрэць зараз у вёсцы вельмі і вельмі цяжка. Большасць — тыя, каму ўсё да лямпачкі. Раней баба Саша падпісвалася на "Народную газету", а калі "Сярэдзіча ўлады выгналі", адразу ж падпісалася на "Народную волю".

Акрамя нашай газеты баба Саша і дзед Іван рэгулярна слухаюць Радыё "Свабода". *"Любім беларускую мову,* — кажуць. — *Калі яе чуем, ажно на душы лягчэй становіцца. Ды і праўду на Радыё "Свабода" кажуць".*

— А хто жыве зараз у Вашай вёсцы?

— Пенсіянеры, "п'янтосы" і бандзюкі мясцовага значэння. Паміраюць у вёсцы вельмі рана, співаюцца. У адной сям'і бацька і сын памерлі ў адзін дзень: — бацька — у сем гадзін раніцы, а сын — у сем гадзін вечара.

— Ці можна параўнаць жыццё зараз і, напрыклад, трыццаць гадоў таму?

— Раней так не п'янствавалі, як зараз. Разбэшчанасці такой у вёсцы не было. У той час усе хацелі працаваць і працавалі. А цяпер ніхто не хоча. Паглядзіце на агароды — усе пустыя. Акрамя пенсіянераў ніхто на агародах не працуе, нават жанчыны не працуюць. Што п'юць? Таннае віно і самагонку. Калі з раёна атрымаюць кармы для кароў — вязуць прадаваць, каб напіцца. Ведаюць, што скаціна можа памерці ад голаду, але ім усё роўна. Ва ўсіх — абыякавасць. Людзі нічога не зарабляюць. Мая знаёмая даглядае цялят, атрымлівае зарплату 20—30 тысяч. Які ж гэта заробак?

### Жывей за ўсіх жывых

Першы завулак Суворава, другі завулак Суворава, трэці завулак Суворава, вуліцы Леніна, Калініна, Чырвонафлоцкая, Чырвонаармейская, — мільгаюць шыльды ў Слаўгарадзе, у які мы зноў вяртаемся, каб потым ехаць у бок Магілёва. Дарэчы, правадыру сусветнага пралетарыяту, акрамя вулічных шыльдаў, пашчасціла скокнуць і ў назву мясцовай раёнкі, якая называецца "Ленінскае слова". Тым не менш нават Уладзіміру Ільічу крыху не пашанцавала: Слаўгарад — амаль адзіны ў Беларусі раённы цэнтр, на цэнтральнай плошчы якога няма помніка Леніну. Сцвярджаюць, што недзе ў канцы 80-х помнік у горад завезлі, але ўстанавіць не паспелі — у краіне адбылася перабудова.

Прадпрымальнікі — амаль адзіная надзея горада. У адрозненне ад тых жа ленінскіх часоў зараз набыць у горадзе можна ўсё што заўгодна. Калі нечага няма ў асартыменце — гандляры прывязуць на заказ. Мясцовыя ўлады з прадпрымальнікамі не ваююць, разумеюць, што якасць тавару будзе вышэй, а цэны ніжэй, калі будзе існаваць канкурэнцыя паміж дзяржаўным і камерцыйным гандлем.

Іншаземцы Слаўгарад, часцей за ўсё, аб'язджаюць бокам. За апошнія гады прыязджалі сюды толькі італьянцы і нарвежцы, — правяралі радыяцыйны фон. Улады на іншаземцаў глядзелі з недаверам і насцярогай. Нарвежцаў наогул выгналі, таму што *"ў іх візе не быў адзначаны горад Слаўгарад"*...

*(Заканчэнне будзе.)*

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота аўтара.**

*Магілёўская вобласць.*









**На здымках:** *баба Саша і дзед Іван — падпісчыкі "Народнай волі" і слухачы Радыё "Свабода"; хлеў пачатку XXI стагоддзя; "Пакуль жывем на матэрыяльную дапамогу дзіцяці, а як далей будзем жыць — не ведаю".*

**СОТРУДНИЧЕСТВО**

# Еврорегион «Днепр»

## *Это там, где петухи в окрестных селах поют сразу на три государства*

*Братские связи и традиции добрососедства всегда были в основе взаимоотношений Черниговщины, Брянщины и Гомельщины, где петухи в окрестных селах поют сразу на три государства. И в новых условиях, когда каждая страна обустраивает жизнь в суверенном доме, отношения соседей выходят на качественно новый уровень.*

В апреле нынешнего года соседи собрались в Гомеле, где подписали соглашение о создании пограничного еврорегиона "Днепр". Определены и сформированы руководящие и исполнительные органы еврорегиона: совет, президиум, секретариат. Все это время совместно шла деятельная наработка конкретных задач, мероприятий, перспектив. И вторым важным этапом в биографии еще молодого сообщества стала международная конференция "Еврорегион "Днепр" — проблемы развития и функционирования", которая состоялась 11 ноября в Чернигове.

В работе конференции приняли участие Чрезвычайный и Полномочный посол Республики Беларусь в Украине В.Величко, Чрезвычайный и Полномочный посол Украины в Республике Беларусь П.Шаповал, посол Республики Беларусь по особым поручениям Н.Войтенков, члены президиума сообщества — губернатор Брянской области Ю.Лодкин и председатель областной думы С.Попасов, председатель Черниговской областной государственной администрации В.Мельничук и председатель областного Совета В.Ковалев, заместитель председателя Гомельского областного исполнительного Совета В.Потупчик и председатель областного Совета депутатов В.Селицкий, сотрудники дипломатических представительств и министерств, ученые, специалисты и эксперты по вопросам еврорегионального сотрудничества.

Открывая на правах хозяина пленарное заседание конференции, Валентин Мельничук обозначил три, по его мнению, важнейшие проблемы, успешное решение которых возможно именно в рамках еврорегиона "Днепр". Это прежде всего соединение приграничных территорий современной транспортной инфраструктурой. Через три соседние области проходит несколько международных транспортных коридоров, в эффективности которых заинтересованы европейские страны. Поэтому важно как можно быстрее восстановить движение поездов на участке железной дороги Семеновка—Климово, а к строительству автомобильных дорог на условиях концессии привлечь иностранных инвесторов. Здесь одним из приоритетов в совместной деятельности членов еврорегиона "Днепр" должны стать подготовка и проведение международных тендеров по разработке проекта и строительству транспортного кольца Чернигов—Брянск—Гомель.

Следующее не менее важное направление совместной работы — создание единого информационного пространства, где будут широко использованы новейшие достижения науки, оптико-волоконной и космической связи, возможности Интернета. Первые шаги здесь уже сделаны: в рамках еврорегиона "Днепр" взаимно открыты представительства Черниговской и Гомельской областей, что значительно упрощает деловое общение и повышает эффективность хозяйственных связей. На очереди — интернет-конференции между тремя областями, создание веб-сайта еврорегион "Днепр", открытие представительств в Брянске. На повестке дня нынешней конференции — создание Международного института славистики.

Третьим, по мнению В.Мельничука, должно стать всестороннее использование для инновационного развития крайне выгодного геополитического положения приграничных областей. Здесь возможны создание агентства по привлечению сил и средств международных фондов, совместное развитие малого и среднего бизнеса. В свою очередь Черниговщина представляет в рамках еврорегиона "Днепр" проект поддержки современного туризма, в том числе международного и приграничного.

Деловой и заинтересованный разговор на пленарной части завершился принятием важного решения — подписанием обращения о принятии еврорегиона "Днепр" в Ассоциацию европейских приграничных регионов в качестве полноправного члена.

**Антон КОНЦЕВОЙ.**

**СУД!**

# Доврался...

*В старое время в судебных процессах перед допросом свидетеля председательствующий по делу произносил слова: "Суд предупреждает Вас: говорите только правду и ничего, кроме правды".*

Такой порядок, хотя и с другими словами, существует и в наши дни. Свидетель предупреждается об уголовной ответственности за отказ или уклонение от дачи показаний и за дачу заведомо ложных показаний, о чем дает подписку суду. Изменил свои показания в суде Речицкого района 40-летний свидетель Олег Стрижок. Правда, делал он это не с целью выгородить обвиняемую, а чтобы самому уйти от ответственности по месту работы — ведь получил бюллетень за коробку конфет и бутылку шампанского, будучи в полном здравии. То есть совершил прогул. В ходе предварительного следствия он давал показания, изобличающие врача-взяточницу.

В конце концов лжесвидетель попал на скамью подсудимых. Единожды солгавшего суд Речицкого района приговорил не к самому строгому наказанию, предусмотренному санкцией части 1-й статьи 401 Уголовного кодекса, — два года придется выплачивать "алименты" в доход государства в размере четверти заработка. Такое наказание именуется "исправительные работы". Оставшийся на свободе Олег десятому закажет врать в судебном заседании.

**Валерий КОЗУБОВ.**

## О задержании товаров и транспорта на таможне

Обнародован Декрет Президента Беларуси от 18 ноября 2003 г. № 23 "Об упорядочении задержания товаров и транспортных средств при проведении таможенного контроля, их хранения, возврата и реализации".

Согласно документу, подлежат задержанию товары и транспортные средства, которые в силу запретов или ограничений не могут перемещаться через таможенную границу, а их владелец не принял мер по добровольному распоряжению ими или не вывез их за пределы таможенной территории Беларуси. Задержание может иметь место также в случаях, когда хранение и владение товарами и транспортными средствами осуществляются с нарушением законодательства. Декрет устанавливает сроки, в течение которых собственник, выполнив соответствующие законодательные предписания, может возвратить задержанные товары и транспортные средства или получить денежные суммы от их реализации. Собственник может вывезти товары и транспортные средства как до их задержания, так и после. Невостребованные товары и транспорт передаются комиссиям по работе с имуществом, обращенным в доход государства, для принятия решения о реализации, если иное не предусмотрено международными договорами и белорусским законодательством.

## Министерство транспорта и коммуникаций Беларуси утвердило процедуру выдачи лицензионных карточек на транспортные средства

Постановлением Минтранса от 30 октября 2003 г. № 50 утверждена Инструкция о порядке выдачи лицензионных карточек на транспортные средства

Лицензионная карточка — это документ, подтверждающий соответствие транспортного средства требованиям законодательства, технических нормативных актов и международных договоров в области автомобильного транспорта, действующих для Республики Беларусь. Учитывается та часть требований, которая предъявляется лицензиату для осуществления автомобильных перевозок. Лицензионная карточка выдается Транспортной инспекцией Минтранса на каждое заявленное для осуществления перевозок транспортное средство. Карточка оформляется в течение не более трех рабочих дней с момента подачи заявителем необходимых документов.

Постановление №50 зарегистрировано в НРПА 17 ноября под №8/10211.

**Информационное агентство Владимира ГРЕВЦОВА.**

**СИТУАЦИЯ**

# Как после смерти деда внучки чуть не остались без жилья...

Жила-была одна небольшая семья: дед, ветеран войны и весьма заслуженный человек, и две внучки-близняшки. Была у них квартира в центре города и достаточно большая (общая площадь 92,72 кв. м).

Задумал как-то дедушка приватизировать столь лакомый кусочек (метраж-то какой!). Да и о внучках позаботиться надо, годы-то берут свое, никто в этом мире не вечен. Сказано — сделано.

В 1999 году администрацией N-го района города была разрешена приватизация квартиры. В нотариальной конторе того же района между администрацией и дедом был заключен договор приватизации занимаемой им и его внучками квартиры. По этому договору дед приобрел право собственности (владения, пользования, распоряжения) на квартиру с момента регистрации договора в Государственном предприятии Бюро регистрации и технической инвентаризации города.

Как того и требует закон, дед оплатил разницу между оценочной стоимостью квартиры и жилищной квотой. Он даже отнес договор приватизации в Бюро регистрации и технической инвентаризации (БРТИ) города, дабы его зарегистрировать, так как в соответствии со ст. 220 Гражданского кодекса Республики Беларусь, а также п. 31 Положения о приватизации жилых помещений в домах государственного и общественного жилищного фонда, их обслуживании и ремонте, утвержденного Постановлением Совета министров Республики Беларусь от 30.06.1992 года право собственности на приватизированное жилое помещение возникает после регистрации договора приватизации в организациях регистрации и технической инвентаризации. Единственное, что дед не успел сделать, — получить в БРТИ технический паспорт на квартиру. Правда, если бы ему сказали, что за паспортом он должен прийти сам, то он бы обязательно пришел и получил его. А ему никто ничего не сказал, и он просто решил, что паспорт либо перешлют по почте, либо сообщат, когда за ним прийти.

И вот 1 августа 2002 года дед умирает. Внучки заняты похоронами, поминками, затем одна за другой рожают детей, лежат с детьми по больницам, а там и личная жизнь дает трещину, и теперь они обе матери-одиночки... Когда жизнь приходит в более-менее нормальное русло, они решают пойти в ЖЭС в надежде оформить оплату квартиры по льготным тарифам (как матери-одиночки). Но сначала следует переоформить квартиру на кого-то из них, так как владелец квартиры умер, а по договору приватизации в случае смерти собственника "все права и обязанности по настоящему договору переходят к его наследникам на общих основаниях". Да и вступить в права наследования пора бы. В ЖЭСе квартира зафиксирована как приватизированная, но для переоформления собственника сестрам нужно предоставить технический паспорт на квартиру. Кинулись искать, а его-то и нет. Они решают обратиться в БРТИ и выяснить этот вопрос. И тут выясняется, что в БРТИ квартира не числится как приватизированная, так как дед не получил этот самый технический паспорт. На просьбу молодых женщин выдать сей документ им ответили отказом, так как, дескать, все сроки на получение этой бумаги вышли, и решение сего вопроса возможно только через суд.

Сестры пошли в юридическую консультацию поинтересоваться насчет того, как им вступить в права наследования. Им ответили, что ничего у них не получится, так как по бумагам БРТИ квартира не является приватизированной, и вообще они "пришли рано, еще не прошло полгода со дня смерти наследодателя" (вступление в права наследования происходит по истечении этого срока. — **Н.Г.**).

Прошло еще полгода, и молодые женщины решили еще раз попытать счастья (или испытать судьбу?). Посетили ту же юридическую консультацию, правда, с другим адвокатом, которая сказала, что теперь они опоздали, что срок вступления в права наследования истек. Сходили в БРТИ, а там сказали, что спустя полгода после смерти деда, оказывается, еще можно было что-то сделать (?!), но спустя год... Квартира-то, выходит, ничья: ни государственная, ни приватизированная. Висит она в воздухе, своим метражом (почти 100 кв. м!) нервирует государство, которое, как собака на сене, — "и сам не гам, и другому не дам". В общем, теперь — только через суд.

В суде же с двух матерей-одиночек содрали бешеную для них сумму денег за подачу искового заявления, которое, как оказалось позже, адвокат составила не так, как надо. Во-первых, оно было составлено как исковое заявление на установление права наследования, а нужно было — "О признании сделки приватизации действительной", так как по логике вещей сначала следовало бы установить, что квартира действительно приватизирована, а уж потом — что женщины являются наследницами деда и имеют полное право собственности на эту квартиру. Во-вторых, наследниц две, а адвокат решила, что одна из них — истец (та, которая, грубо говоря, жаждет правды), другая — свидетель (она лишь только свидетельствует о том, что истец жаждет правды). Бред!

Итак, по первому (неправильному) исковому заявлению было назначено судебное разбирательство. Быстренько опросили всех свидетелей, соседей, что на наследство больше никто не претендует. И наконец решили, что суд состоялся вовсе не по существу дела, так как исковое заявление составлено неверно.

На благотворительной основе та же адвокат переписала исковое заявление так, как следует, и состоялось второе судебное разбирательство (теперь уже по существу) "О признании сделки приватизации действительной", на котором сделку признали-таки действительной.

...Хорошо то, что хорошо кончается. Теперь матери-одиночки могут вступить в права наследования и пойти в ЖЭС для оформления оплаты квартиры по льготным тарифам, с чего, собственно, все это и началось. А ведь всей этой истории вообще могло не быть, отнесись задействованные должностные лица и к людям, и к своим обязанностям с известной мерой добросовестности.

**Наталья ГУСЕВА.**

## Купіце камбінат

*Фонд "Віцебскаблмаёмасць" выставіў на продаж з аўкцыёну унітарнае камунальнае прадпрыемства "Дзісненскі камбінат будаўнічых матэрыялаў", што размешчаны ў Мёрскім раёне.*

Як паведаміла начальнік аддзела аўкцыёнаў фонду Ларыса Шчаглова, пачатковая цана лота вызначана ў памеры 85 млн. рублёў. Акрамя таго, пераможца аўкцыёну павінен пакрыць затраты па падрыхтоўцы аб'екта прыватызацыі да продажу на суму 5 млн. рублёў.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

